Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10.2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер,
выдаецца на беларускай мове.

*Са святам вясны і прыгажосці, паважаныя жанчыны!*

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года | 9 (517) 4 сакавіка 2010 года | Кошт **свабодны**



нумар **166** дзённа й ночна

УНП 391053932

**абвесткі з хатняга тэлефона ў «Вольнае Глыбокае»**

Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па **хатняму** тэлефону на нумар 166. **Кругласутачна.** Выразна назавіце назоў газеты. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 300 рублёў.

Абвестка тлустым шрыфтом да 5 слоў – 3000 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 400 рублёў.

Між тым, парадак прыёму прыватных абвестак у месцах продажу нашай газеты – нязменны.

# Êîñ³íåö çàáàðàí³¢ ïðîäàæ ï³âà ¢ ê³¸ñêàõ

Сяржук Серабро

**З 1 сакавіка на тэрыторыі Віцебскай вобласці забаронены продаж піва і іншых слабаалкагольных напояў з аб'ёмнай доляй этылавага спірту не больш за 7%.**

Такое рашэнне за подпісам Аляксандра Косінца было прынята Віцебскім аблвыканкамам 21 снежня 2009 года: «Усталяваць, што раздробны гандаль півам і слабаалкагольнымі напоямі з аб'ёмнай дзеллю этылавага спірту не больш за 7 адсоткаў на тэрыторыі Віцебскай вобласці кругласутачна не ажыццяўляецца ў аб'ектах дробнарознічнай гандлёвай сеткі (павільёны, кіёскі, палаткі, гандлёвыя аўтаматы, аўтакрамы), за выключэннем аўтакрам, якія адносяцца да сістэмы спажывецкай кааперацыі і якія ажыццяўляюць гандаль у сельскай мясцовасці, міні-кафэ, летніх (сезонных) кафэ».

Юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі абавязаны правесці інвентарызацыю рэштак тавараў, якія ўтварыліся на дату ўступа рашэння ў сілу. Звесткі пра рэштki тавараў, якія ўтварыліся, у 5-дзённы тэрмін павінны быць перададзены ў трох асобніках у інспекцыю МНС Рэспублікі Беларусь па месцы пастаноўкі на ўлік.

# Ó Áåëàðóñ³ ïàâûøàåööà êîøò ïðàåçäó ¢ ãðàìàäñê³ì òðàíñïàðöå



Сяргей Пульша *БелаПАН*

**Згодна з пастановай Міністэрства эканомікі, паездка ў грамадскім транспарце Мінска будзе каштаваць 700 рублёў (зараз — 600), у абласцях — 600 рублёў (зараз — 500).**

Паводле інфармацыі афіцыйнага сайта Мінэканомікі, ўзгоднены таксама межавыя максімальныя тарыфы на перавозкі пасажыраў гарадскімі аўтобусамі экспрэсных рэгулярных маршрутаў з дазволенай максімальнай масай больш за 5 тыс. кг: у Мінску — 1.100 рублёў за паездку, у абласцях — 900 рублёў.

Кошт праязных білетаў шматразовага выкарыстання «ўзгоднены Міністэрствам эканомікі ў памерах, адэкватных росту тарыфаў на праезд».

У адпаведнасці з разлікамі да закона «Аб рэспубліканскім бюджэце на 2010 год» устаноўлена, што за кошт даходаў ад продажу праязных білетаў у Мінску павінна вяртацца 70% выдаткаў на перавозкі пасажыраў транспартам агульнага карыстання, у абласцях — 81%.

Аднак, паводле папярэдніх вынікаў фінансава-гаспадарчай дзейнасці ДП «Мінсктранс» за 2009 год, узровень вяртання выдаткаў на перавозкі гарадскім грамадскім транспартам даходамі ад продажу білетаў склаў у сярэднім 36,8% у Мінску і 70% — у абласцях.

Павышэнне тарыфаў на праезд у грамадскім транспарце сталіцы адбудзецца пасля прыняцця адпаведнага рашэння Мінскім гарвыканкамам і яго афіцыйнага апублікавання.

Тарыфы на праезд у грамадскім транспарце не павышаліся ў Беларусі са жніўня 2007 года.

Пастаўскі раён

# Íåçàãîéíûÿ àôãàíñê³ÿ ðàíû

Кастусь Александровіч

**Хоць і гаворыцца, што час лечыць любыя фізічныя і душэўныя раны, аднак гэта не заўсёды так.**

Падчас нядаўніх урачыстасцей з нагоды 21-годдзя вываду савецкіх войск у Паставах, як і паўсюдна, хвілінай маўчання і збройным салютам ля помніка-абеліска воінам-інтэрнацыяналістам ушанавалі памяць загінуўшых землякоў на чужой зямлі. З далёкіх афганскіх гор не вярнуліся дамоў радавы Аляксандр Урбель, яфрэйтар Міхаіл Лапко. Жыццё капітана Радзівона Мішуты абарвала куля душманскага снайпера, у Сірыі загінуў Сяргей Галяк, у службовай камандзіроўцы ў Афганістане прапаў бясследна камсамольскі лідэр Генадзь Кулажанка. Былыя афганцы, іх родныя і сябры, хто сабраўся на сустрэчу ў райцэнтры, сталі на мітынгу моўчкі, але ледзь не плакалі. Бо толькі ім вядома, што давялося перажыць, з-за чаго заўчасна ўжо пайшлі з жыцця ў раёне 20 былых воінаў, каму пашчасціла выжыць у той жудаснай бойні. Па традыцыі на магілы загінуўшых на вайне былі ускладзены кветкі і вянкі, а калі ўрачыстасці закончыліся, пачала працаваць перасоўная фотавыстава партрэтаў афганцаў, здымкаў з той вайны "Каб памяталі". У школах і іншых установах стане размяшчацца працяглы час гэта мастацкая экспазіцыя, якую зрабіў фотамастак Андрэй Мацур сумесна з супрацоўнікамі раённага музея.

Браслаўскі раён

# Íà áàëîòàõ ³ íå òîëüê³

Чэслаў Якубовіч

**Некалькі разоў апошнім часам аказвалася на мяжы банкроцтва прадпрыемства меліярацыйных сістэм у Браслаўскім раёне, калі ў дзяржавы не было сродкаў для развіцця гэтай галіны.**

Але выжылі, а летась нават павялічылі колькасць працуючых тут больш чым на 30 работнікаў, папоўнілі парк тэхнікі. Як аказалася, у гэтым калектыве людзі здольныя выконваць і не спецыфічныя заказы. Так у пачатку вясны меліяратары здадуць вяскоўцам яшчэ два пабудаваныя жылыя дамы, а да канца года такіх катэджаў будзе 10. Яшчэ адна будаўнічая брыгада з ПМС занята і на ўзвядзенні новай шматпавярхоўкі ў райцэнтры. Былі задзейнічаны летась меліяратары на будаўніцтве аднаго з дапаможных аб'ектаў для сучаснай малочнатаварнай фермы ў Відзах. Атрымаў калектыў і каштоўны аб'ект ад дырэкцыі Нацыянальнага парка "Браслаўскія азёры", для якога пабудуе дарогу пасярод лесу працягласцю амаль 7 кіламетраў. Работнікі прадпрыемства могуць ганарыцца, што менавіта яны выканалі важныя работы па ўзвядзенню патрэбнай берагавой лініі буйнога возера Дрывяты для нерасту рыб. Хапала працы меліяратарам і сёлетняй суровай зімой. Апроч усяго, займаюцца яны вырошчваннем рыбы на сваіх чатырох арэндаваных азёрах, дзякуючы сваёй шматпрофільнасці жывуць і прыносяць карысць азёрнаму краю.

Лепельскі раён

# Íà ðûíêó ïðàöû ³ àãðàñÿäç³áû

Станіслаў Раманчук

**Разам з яшчэ двума раёнамі вобласці Лепельскі раён стаў адным з самых праблемных у Беларусі па ўзроўню беспрацоўя.**

Для гэтай прыгожай мясцовасці забяспечыць занятасць людзей дапамагае стварэнне агратурыстычных гаспадарак, якіх паспяхова дзейнічае ўжо 12. У асноўным такія сядзібы размешчаны недалёка ад горада, а вось адна з самых аддаленых ад Лепеля "У Гаўрылавіча" стала нядаўна адным з пераможцаў абласнога конкурса на лепшую аграэкасядзібу ў намінацыі "Стыль і гармонія". Яна хоць і размешчана на адлегласці 25 км ад райцэнтра, але лепшага месца адпачыць ля возера з сасновым борам ад гарадскога тлуму тут не знайсці. Спачатку былы ваенны Аляксей Часнакоў купіў толькі зруб для сябе, але вырашыў, што сядзібу трэба зрабіць і для адпачынку іншых людзей. Цяпер на ўлонні прыроды з'явілася двухпавярховая драўляная міні-гасцініца. З дапамогай Інтэрнету сюды заказваюць месцы пажыць колькі дзён, а то і тыдняў не толькі гараджане з Беларусі, але і грамадзяне Германіі, Расіі, іншых краін. Для наведвальнікаў прапануецца актыўны адпачынак, рыбалка, збор грыбоў і ягад, лазня, прагулкі на лодках. Як гэта практыкуецца ў Еўропе, хто пабыў тут, раіць прыехаць сваім сябрам і знаёмым і такі адпачынак прыцягвае ўсё больш і больш турыстаў.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| | чацвер 04.03.10 | | | | пятн.05.03.10 | | | суб. 06.03.10 | | нядз.07.03.10 | | пн. 08.03. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Апады | | | | | | | | | | | - | - | - |
| Тэмпература, °С | -4 | -8 | -4 | -7 | -8 | -8 | -4 | -10 | -6 | -11 | -8 | -10 | -9 |
| Ціск, мм | 742 | 742 | 743 | 743 | 742 | 742 | 742 | 744 | 747 | 751 | 754 | 755 | 751 |
| Вільготнасць, % | 84 | 86 | 75 | 82 | 81 | 88 | 79 | 81 | 75 | 82 | 79 | - | - |
| Вецер м/сек | З 3 | З 3 | З 3 | Ю 3 | З 3 | З 3 | З 3 | С-З 1 | С-В 2 | С 4 | С-В 2 | С-В 2 | З 3 |

## Äçåíü çà äíåì

**Кіраўніцтва Беларусі падтрымала прапановы па рэарганізацыі шэрагу структур Мінсельгасхарча. У гэту галіну дзяржава за апошнія 5 гадоў уклала больш 21 трлн. рублёў, толькі летась па 212 USD на кожны гектар зямлі. Аднак вынікі дзейнасці беларускіх калгасаў сціплыя, усяго 14 раёнаў краіны са 118 забяспечылі неабходны рост вытворчасці. Найболей было закапана грошай у зямлю ў Мінскай, Гродзенскай і Віцебскай абласцях, дзе найболей праблемных сельгасарганізацый-банкротаў, а большасці СВК яшчэ трэба навучыцца працаваць на зямлі па-гаспадарску.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

***ЗША.*** Прэзідэнт Б. Абама ўпершыню за 30 гадоў аб'явіў праграму гарантый урада на крэдыты ў суме 8 млрд. USD для будаўніцтва новых атамных электрастанцый.

***Польшча.*** Рэзкае абурэнне ў краіне выклікала рашэнне Валожынскага райсуда вызваліць Польскі дом у Івянцы ад членаў непрызнанага ўладамі РБ Саюза палякаў на Беларусі.

***Бельгія.*** Вярхоўны прадстаўнік ЕС па знешняй палітыцы К. Эштан выказала глыбокую заклапочанасць у сувязі з ціскам на польскую нацменшасць і на апазіцыю ў Беларусі.

***Іран.*** Крайне негатыўную рэакцыю свету выклікала першая партыя выбабленага тут урану, абагачанага да 20 %, краіна стала ядзернай дзяржавай і пагражае міру ў рэгіёне.

***Судан.*** У правінцыі Кардафан стала імклівa распаўсюджвацца невядомая хвароба, калі людзі елі пшаніцу і сталі масава пасля моцнага рогату губляць прытомнасць.

***Расія.*** Аб'ём тавараабароту з Беларуссю рэзка ўпаў за мінулы год больш чым на трэць да 23,4 млрд. USD, беларускіх тавараў краіна закупіла толькі на 6,7 млрд. долараў.

***Кітай.*** Адна з кітайскіх кампаній пачала выпускаць мабільныя тэлефоны з убудаванай электрабрытвай Shave Mobile коштам каля 100 USD, на чарзе тэлефоны-фены для дам.

***Грузія.*** Кіраўніцтва краіны заявіла аб звярнтанні ў міжнародныя суды з іскам супраць Расіі на 40 млрд. USD на кампенсацыю панесеных страт, нанесеных РФ у Абхазіі і Асеціі.

***Японія.*** Па выніках года ВУП краіны склаў 5,1 трлн. USD, эканамічны рост тут доўжыцца чацвёрты квартал запар, японская эканоміка застаецца другой па магутнасці ў свеце.

***Шатландыя.*** Спецыялісты бровара Brewdog зварылі самае моцнае ў свеце піва моцнасцю больш за гарэлку ў 41 градус і сталі прадаваць праз сайт сваёй кампаніі.

***Егіпет.*** Міжнародная група вучоных з дапамогай сучасных тэхналогій устанавіла прычыну смерці фараона Тутанхамона заражэнне смяротэльнай формай малярыі.

***Бельгія.*** Штаб-кватэра НАТА ў Брусэлі абурылася новым намерам Расіі пабудаваць у Абхазіі на граніцы з Грузіяй ваенную базу, больш моцную, чым у перыяд СССР.

***Расія.*** На масавым мітынгу ў Іркуцку ў абарону возера Байкал каля 2 тысяч удзельнікаў акцыі авацыямі падтрымалі прагучаўшы лозунг "Далоў Пуціна і яго ны ўрад!"

***Італія.*** Кіраўніцтва Ватыкана вырашыла выкласці ў Інтэрнеце частку сваіх архіваў часоў Другой сусветнай вайны, каб не было чутак наконт дзеяннаў Папы Пія XII у той час.

***Швейцарыя.*** У Кнігу сусветных рэкордаў Гіннэса занесена імя жыхара краіны Петэра Кола, які без акваланга правёў пад вадой больш 19 хвілін з затрымкай дыхання.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

***Мінск.*** Для ўезду ў краіны Еўрасаюза грамадзянам Беларусі з 5 красавіка трэба мець пашпарты не старэй за 10 гадоў і з мінімум дзвюмя чыстымі старонкамі для ўязных віз.

***Жодзіна.*** Юрыдычная служба БелАЗа завяршыла пераўтварэнне аднаго з буйнейшых заводаў свету па вытворчасці кар'ерных грузавікоў ў адкрытае акцыянернае таварыства.

***Мінск.*** У Палаце прадстаўнікоў прайшло першае пасяджэнне рабочай групы па пытаннях праблематыкі адмены альбо захавання смяротнага пакарання ў Беларусі.

***Брэст.*** У абласной друкарні запусцілі магутную чатырохфарбавую друкарскую машыну, на філфаку дзяржуніверсітэта восенню адкрыецца новае аддзяленне журналістыкі.

***Светлагорск.*** На шчасце абышлося без пацярпелых пасля абрушэння даху пад ціскам паўметровага слою снегу паміж гандлёвымі павільёнамі на рынку "Юбілейны".

***Мінск.*** На прэзентацыі новых форм абслугоўвання кліентаў "Альфа-Банка" прагучала лічба, што каля 10 тысяч беларусаў валодаюць багаццямі 1 млн. долараў і болей.

***Гомель.*** З пачатку года ў вобласці зарэгістравана ўжо 7 выпадкаў крадзяжу махлярамі цыганамі грошай у састарэлых людзей пад відам ілжэ-сацработніц, кантралёраў і г. д.

***Мінск.*** Супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства НАН Беларусі выканалі заказ Міністэрства абароны і пераклалі ваенныя статуты і каманды ў войску на родную беларускую мову.

***Гродна.*** Новую вуліцу паміж мікрараёнамі Дзевятоўка і Форты назвалі імем Аляксандра Дубко, былога таленавітага кіраўніка вобласці, які раней ініцыяваў пабудаваць яе.

***Баранавічы.*** Стыхійны сход рабочых аўтаагрэгатнага завода запатрабаваў спыніць звальненні, падняць заробкі, але завод працуе 3 дні на тыдзень, 300 чалавек тут лішнія.

***Нясвіж.*** У мясцовым замку вырашана аднавіць да 2011 года мабільную тэатральную залу для экспанiравання прадметаў мастацтва і аднавіць інтэр'ер капліцы з арганам.

***Гомель.*** Сусветны банк пацвердзіў свой намер выдзеліць сёлета крэдыт у памеры 150 млн. USD на рэканструкцыю аўтадарогі М-5 Гомель-Мінск на ўчастку каля Бабруйска.

***Магілёў.*** Пасля паспяховага канцэрта ў абласную бальніцу з сардэчным прыступам змясцілі народную артыстку Расіі Валянціну Талкунову, перанеслі яе канцэрт у Мінску.

***Гродна.*** Былы начальнік абласной міліцыі, генерал-маёр Генадзь Хацько аб'яўлены ў вышук, пасля звальнення супраць яго распачата крымінальная справа Генпракуратурай.

***Мінск.*** Кіраўнік знакамітага тэатра гумару "Хрыстафор" Яўген Крыжаноўскі прадставіў чытачам сваю кнігу "Ад аншлага да "Аншлага", якая выйшла накладам 100 тысяч штук.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

***Талачын.*** Са снежня мінулага года прастойвае тэкстыльная фабрыка, дзе засталося 80 чалавек, шэраг з іх не бачылі заробкаў яшчэ з кастрычніка, ёй пагражае банкротства.

***Віцебск.*** Гарадскі сквер імя Леніна да 65-годдзя святкавання Вялікай Перамогі можа быць перайменаваны ў гонар Героя Савецкага Саюза Бацькі Міная (Міная Шмырова).

***Орша.*** На мясакансервным камбінаце выпусцілі навінкі, вараныя каўбасы для гурманаў "2 рублі 20 капеек" і "2 рублі 80 капеек", папулярныя і дэфіцытныя ў савецкі час.

***Віцебск.*** Чарговы XIX Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" сёлета было вырашана на пасяджэнні гарвыканкама правесці ў тэрмін з 9 па 15 ліпеня.

***Дуброўна.*** Каля пункту пропуску "Рэдзькі" ля граніцы РФ быў затрыманы нелегальны груз сумнеўнай парфумерыі коштам 8 млн. рублёў у машыне 26-гадовага жыхара Магілёва.

***Верхнядзвінск.*** Ксёндз Тадэвуш, пробашч мясцовага храма, правёў у райцэнтры чарговую сустрэчу групы ананімных алкаголікаў з удзелам такіх груп з Полацка і Маладзечна.

***Докшыцы.*** На мясцовым хлебазаводзе пасля мантажу новых ліній пачалі выпускаць торты і розныя піроржныя, услед за імі ў гандаль паступяць асновы для піццы і тарталеткі.

***Полацк.*** За атрыманне хабару 400 тыс. рублёў за выдзяленне ўчастка для нарыхтоўкі дроў міліцыя затрымала 36-гадовага лесніка, узбуджана крымінальная справа.

***Віцебск.*** Дзіцячую папраўчую калонію №3 наведалі з экскурсіяй цяжкія падлеткі з Першамайскага раёна горада, каб не было ў іх болей рамантыкі пра турэмны побыт.

***Бешанковічы.*** Для сваіх работнікаў дырэкцыя Бешанковіцкага ПМС увяла бясплатныя абеды з разліку 5 тысяч рублёў на чалавека ў суткі, тут прайшоў абласны семінар.

***Паставы.*** За добрую службу калектыў райаддзела МНС атрымаў ад міністэрства новы сучасны пажарны аўтамабіль МАЗ з магутнасцю распыляць 50 літраў вады ў секунду.

***Віцебск.*** Калектыў абласной бібліятэкі сабраў адзіную ў гэтым рэгіёне электронную калекцыю з больш 300 рэдкіх кніг і дакументаў па гісторыі тагачаснай Віцебскай губерніі.

***Полацк.*** На ваенным стрэльбішчы ля пасёлка Фарынава прайшоў адкрыты чэмпіянат раёна "Полацкі стралок" па стральбе з ружжаў да Дня Абаронцаў Айчыны.

***Ушачы.*** Па добрых выніках працы спартшколе райцэнтра прысвоены новы статус спецыялізаванай ДЮСШ алімпійскага рэзерва, тут падрыхтавалі 28 майстроў спорту.

***Мёры.*** За паўторную язду на працягу года ў нецвярозым стане суд аштрафаваў на 5,2 млн. рублёў 20-гадовага вясковага хлопца, яго затрымалі супрацоўнікі ДАІ раніцай у вёсцы.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**82** столькі краін свету прынялі ўдзел у галоўных спартыўных спаборніцтвах года XXI зімовых Алімпійскіх гульнях, якія праходзілі на працягу паўмесяца ў канадскім горадзе Ванкуверы. На снежных трасы, горныя спускі і лядовыя арэны выходзілі на старты амаль 5 з паловай тысяч спартсменаў у 15 зімовых відах спорту. Да гэтай грандыёзнай падзеі ўвесь час была прыкавана ўвага ўсяго свету, а ўрачыстую цырымонію адкрыцця белай Алімпіяды глядзеў на тэлевізары кожны другі жыхар планеты.

На акіянскім узбярэжжы Брытанскай Калумбіі большасці ўдзельнікаў Гульняў, трэнерам, афіцыйным асобам, турыстам прыйшлося сутыкнуцца з іншымі гадзіннікавымі палюсамі. Многіх здзівіў мясцовы ўклад жыцця, абсалютная бяспека прагулак нават ноччу па гораду і поўная свабода людзей, а таксама незвычайна цёплае надвор'е з дажджом, якое нарабіла шмат клопатаў аргкамітэту. Снег прыйшлося вазіць з гор грузавікамі і нават верталётамі, распыляць розныя хімікаты, каб ён павольней таяў. Самі ж алімпійцы разыгралі 86 камплектаў медалёў і толькі два віды былі чыста сярод мужчын, бо пакуль жанчыны не выступаюць у лыжным двухбор'і і ў скачках з трампліна.

На гэтай Алімпіядзе нацыянальная зборная Беларусі выступала толькі ў 6 відах спорту: біятлоне, хакеі з шайбай, горных лыжах, лыжных гонках, хуткасным бегу на каньках і ў спаборніцтвах па самаму медалеёмкаму для нас фрыстайлу. Склад беларускай дружыны быў досыць прадстаўнічы, у яе ўвайшлі 50 атлетаў. Праўда, каб не нашы хакеісты, спартсменаў з надпісам на белачырвоных касцюмах Belarus у Канадзе было б не так і шмат. Аб'ектыўна беларускія алімпійцы не ў стане канкураваць з фаварытамі, мы радуемся і адзінкавым поспехам.

На папярэдняй Алімпіядзе ў італьянскім Турыне Беларусь заваявала толькі адзін сярэбраны медаль, і па гэтаму паказчыку заняла тады 21-е месца ў агульнакамандным заліку. На гэты раз зноў лепей выступалі спартсмены ЗША, Германіі, Нарвегіі, Канады, горш, чым чакалася, праявілі сябе расійскія спартсмены. Як і раней, большасць паказаных вынікаў беларускімі атлетамі засмуцілі, яны заставаліся далёка на подступах да п'едэсталу гонару. Ад іх чакалі лепшых выступленняў, але пры звышвысокай канкурэнцыі правальваліся на дыстанцыях не толькі нашы, але і прызнаныя лідэры і фаварыты Гульняў. Толькі на 7-мы дзень спаборніцтваў беларусаў "прарвала", і нам бліскуча заявавалі ўпершыню адразу два медалі ў біятлоне.

Упершыню, як вядома, гэты сусветны спартыўны форум пачаўся з трагедыі, калі падчас трэніроўкі загінуў на складанай трасе санчнік з Грузіі. Праўда, дагэтуль на саміх спаборніцтвах у Інсбруку (1964 год) і Альбервілі (1992 год) загінулі на трасах яшчэ 2 гарналыжнікі і саначнік. Грузінская дэлегацыя нават думала вярнуцца дамоў, але засталася і прайшла на цырымоніі адкрыцця з чорнымі павязкамі і шарфікамі ў памяць аб загінуўшым спартсмене. Таксама ўпершыню на 60-тысячнай крытай арэне BC Place ў Ванкуверы была хвіліна маўчання. Галоўны агонь зімовай Алімпіяды быў запалены не толькі тут, але і на адной з гарадскіх плошчаў, на копіі канструкцыі, якія сімвалізавалі вогнішча індзейцаў.

На прайшоўнай Алімпіядзе яшчэ больш жорсткімі былі правілы барацьбы з допінгам. Тэст на допінг і выяўленне розных анаболікаў і стымулятараў браліся не адзін раз у большасці прафесійных атлетаў. Да пачатку спаборніцтваў былі выяўлены 30 выпадкаў прымянення забароненых прэпаратаў у спартсменаў. І гэта правільна, бо якімі б вялікімі не былі ганарары за медалі, здароўе атлета і чысціня спорту важней. А на саміх Гульнях была вельмі напружаная барацьба за ўзнагароды. Хіба толькі спартсмены з цёплых краін такіх, як Гана, Ямайка, Пакістан, Іран і іншых прыехалі для таго, каб проста паўдзельнічаць і прадставіць сваю дзяржаву.

Асноўная ж маса змагалася за прызавыя грошы, магчымасць у статусе прызёра і пераможцы Алімпіяды забяспечыць бязбедную старасць, вялікія рэкламныя кантракты і іншыя даброты і вядома ж за славу і вядомасць у грамадстве. Час бяжыць хутка. Зімовыя Алімпійскія гульні ў Канадзе сталі ўжо здабыткам гісторыі. Эстафету іх правядзення пераняла Расія, дзе зімой 2014 года ў горадзе Сочы зноў пройдзе, як абяцаюць, лепшая ў гісторыі Алімпіяда ва ўнікальным месцы, дзе субтропікі суседнічаюць з зімой у гарах.

# Мушкат

## Таямніцы старадаўніх картаў




Ул. Скрабатун

### "Глыбоччына – край блакітных азёраў"

Гэта было ўжо даўно, здаецца, год 1977-мы… У часе вучобы ў Мінскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме быў у нас такі прадмет – ахова прыроды. Выкладчык прадмету, як цяпер памятаю, Барыс Хадакоў, даў заданне студэнтам напісаць рэферат па ахове прыроды. Натуральна, што кожны ўзяў сабе нейкую тэму і пабег у бібліятэку шукаць адпаведныя кнігі. У мяне ж, у галаве, саспела, як мне тады падалося, грандыёзная ідэя – напісаць рэферат па тэме "Глыбоччына – край блакітных азёраў" без усялякіх кніжак, а толькі паводле ўласных назіранняў, уласных даследаванняў і высноваў, вандровак і фатаздымкаў.

Выкладчык высока ацаніў задуму і сказаў: *"Пішыце! Даю вам, нават, на месяц больш тэрмін, чым астатнім!"*

Пад апісанне патрапілі ўсе блізлеглыя глыбоцкія азёры: Чачалі, Белае, Бяглец, Пусцянец, Крывое, Кагальнае, Вялікае, Падлазнае і Мушкат. У датычнасці Мушката, як раз, дарэчы, прыйшлося паданне аб замку, які стаяў на высокай скале пасярод возера. Аднойчы ўшчалася вялізная бура і моцная маланка ўдарыла ў замак. Скала і замак раскалоліся на часткі ды зніклі ў праддонні возера. І цяпер, у яснае сонечнае надвор'е, на глыбіні возера, бачныя каменныя руіны…

Гэтую байку, неяк, пад час вагараў, апавёў мне аднакласнік Саша Уткін. Не важна, было тое насамрэч, ці не, але майму рэферату гэта надало адценне рамантызму. Выкладчык паставіў адзнаку – "пяць з вялікім плюсам". Два семестры наогул не турбаваў, нават, заадно, паставіў "пяцеркі" па ўсіх іншых прадметах, якія ў нас выкладаў. Усе іншыя рэфераты, натуральна, пасля выпуска , пайшлі ў макулатуру. Рэферат "Глыбоччына – край блакітных азёраў" на доўгія гады заняў месца ва аўдыторыі, у шафе за шклом, як "эталон" напісання рэфератаў па ахове прыроды.

Прайшло потым гадоў мо сем-восем… Аўтар ужо працаваў прарабам у Вентспілсе (Латвія) ды навучаўся на вячэрнім аддзяленні Рыжскага палітэхнічнага інстытута… Прыехаўшы з Мінска, раптам, запрашэнне ад колішняга старасты прыехаць на сустрэчу выпускнікоў нашае групы.

Паехаў. Сустрэлася нас чалавек пятнаццаць. Разам з колішнім выкладчыкам сп. Барысам Хадаковым пайшлі ў рэстаран. І тут выкладчык апавёў цікавую гісторыю:

*"Стаяў ваш рэферат за шыбай колькі гадоў, стаяў, аж бачу – няма! Ніхто са студэнтаў не прызнаецца – куды падзеўся? А тут, нечакана, студэнт негр прыносіць рэферат "Глыбоччына – край блакітных азёраў"! Змяніў вокладку, напісаў сваё імя і прозвішча… Я ў яго пытаю: "Ты хоць ведаеш, дзе знаходзіцца тая Глыбоччына, і што такое Край блакітных азёраў?"*

*– Не...*

*– Рэферат ізноў вярнуўся на сталае месца…*

Аднак, гэта было досыць даўно і аўтар жыве не ў Латвіі, а ў Глыбокім.

### "Джгіровая яма"

Не лічу сябе заўзятым рыбаловам. На зімовую рыбалку, пасля шматгадовага перапынку, наогул, пайшоў упершыню толькі ў мінулым годзе. Памятаецца, злавіў на Мушкаце штук дзесяць дужа важкіх джгіроў (яршоў). Гэты ж "подзвіг" захацелася паўтарыць і ў гэтым годзе. Прыйшоў, як здавалася, на тое самае месца… Разматаў усю шпульку лескі – дна не дастаў! Прыйшлося ісці на іншае месца і лавіць іншую рыбу.

Нечаканы факт глыбіні Мушката аўтара ўразіў. Апавядаю тое аднаму знаёмаму рыбалову, які лічыцца тут у нас экспертам па рыбалцы і носіць годную мянушку "Барада"…

*– Не можа такога быць, Валодзя! Разматаў усю шпульку і дна не дастаў? Глыбіня Мушката – 11 метраў, максімум – 12. На шпульцы ж – 30! Дый, наогул, джгір бярэ бліжэй да вясны, на адлігу, а не цяпер (месяц назад) – на маразы!*

Ладна. Перабіраючы рэчы ў шуфлядцы, знайшоў арыгінальную шпульку ад той лескі, а там напісана не толькі "Made in Italy", але і яе даўжыня. Аказваецца: не 30 м, а – 25 м. Гэта, зразумела, не факт, што глыбіня Мушката – 25 м. Частка лескі, бывае, на рыбалцы блытаецца і потым удаляецца. Колькі засталося? Ну, 20, 19 м… Між іншым, прачытаў у адной публікацыі, што мясцовыя жыхары, што каля возера Доўгага жывуць, пранумаравалі шнур праз адзін метр і намералі глыбіню возера не 53,6 м, як афіцыйна лічыцца, а – 57 метраў. Каму верыць: мясцовым ці мінскім даследчыкам? Ці можа быць глыбіня Мушката 20 метраў? А чаму б і не!

Якая ж глыбіня Мушката – афіцыйна, паводле энцыклапедычных даведнікаў? Выручыў аўтара Канстанцін Бахір. Аказваецца, даследаванні апублікаваныя ў "Блакітнай кнізе Беларусі", 1994 г. Найбольшая глыбіня Мушката – 18,7 м. Ну, і хто там казаў – 11 метраў? "Барада"?

Мы ўзялі схему возера з "Блакітнай кнігі…" і апрацавалі на камп'ютэры, дзе кожнаму метру глыбіні надалі сваё адценне. 18,7 метраў глыбіні – 18 адценняў. І што атрымалася! Напаўраспушчаны бутон кветкі. Гвалзік, напрыклад. Такі выгляд кветкі можа быць, калі на яе глядзець зверху. Напаўраспушчаная!

Відовішча ўражвае! З боку вёскі Мушкат возера ідзе рэзка ў глыбіню, нібыта гэта – кратэр вулкана. Джгіровая яма! Як яна магла ўтварыцца? Тут можна пафантазіраваць. І фантазія можа быць, нават, праўдай. Вядома, што 10 тысяч гадоў таму назад Валдайскі ледавік, які месцамі меў таўшчыню да 2 кіламетраў і займаў тады толькі поўнач нашае краіны – Віцебскую вобласць – пачаў незваротна адступаць. Але яшчэ некалькі тысяч гадоў затым у тоўшчы прынесеных са Скандынавіі пяскоў, жвіроў, камянёў і глінаў пакоіліся вялізныя глыбы лёду, паступова таючы. Тундра адступала, ставала цяплей і цяплей… Адна з такіх вялізных глыбаў, урэшце рэшт, растаяла. Утварылася возера Мушкат і яго Джгіровая Яма.

### "Месца тут напоенае!"

Вельмі старадаўняя карта ўразіла. На беразе возера Мушкат, 150-160 гадоў таму, стаяла аж дзве карчмы, аб чым сведчыць адпаведны адзначнік – кружок са сцяжком. Яшчэ дзве – далей. Зусім блізка! Не больш паўкіламетра. Адна – на пад'ездзе да вёскі Марцыбыліна, іншая – у самой Марцыбыліне, на беразе возера. Чатыры карчмы!!!

*(Цяпер кажуць, што агратурызм у нашым краі развіваць не выгадна. А вось паўтара века таму ведалі, як народ сюды завабіць!)*

Тэлефаную знаёмаму скарбашукальніку…

– Алесь, ведаеш, на беразе Мушката стаяла дзве карчмы? Во, талераў выпівохі нагублялі!

– Ведаю. Месца тут здаўна – напоенае. І цяпер там, на беразе, не слаба п'юць. Вартага ў зямлі нічога няма. Адзін хлам. Толькі коркі ад падсвільскага віна.

### Забелле – за Белым возерам

Гледзячы на старую карту і параўноўваючы абрысы возера Мушкат на сучайнай карце – заўважаеш неадпаведнасць. Карчма Бароўка стаяла на беразе возера і пры бойкай дарозе, што ішла з Беразвечча на Мярэцкія (на карце – Мерецская). Мушкат адыйшоў ад дарогі метраў на 80-100. Цяпер там – балота з вольхамі. Карчма Кукін (Кукинъ) знаходзілася на месцы сучаснай вёскі Мушкат. Праўдападобна, гэтыя корчмы ўзніклі не без удзелу беразвецкіх манахаў базыльянаў.

Страціла ў плошчы і возера Падлазнае. Цяпер яно – круглае, без затокаў. На карце яно падпісана як возера Беразвеч. Сёння на месцы затокаў расце алешнік. Гэта добра бачна цяпер, калі з шашы заварочваеш да мемарыяльнага комплекса Барок.

А вось возера Забельскае страціла значна! Візуальна – ¼ частку сваёй плошчы. У раёне Мярэцкіх яно падыходзіла да самай дарогі. Цяпер там – балота. Возера тут адступіла не менш, чым на 100 метраў. Адступіла возера Забельскае і з боку возера Мушкат ці не на 300 метраў. Раней яно падыходзіла ўпрытык да дарогі, што ідзе з Беразвечча на Марцыбыліну. На месцы гэтай часткі возера, таксама балота, якое, яшчэ ў дадатак, пе-




Фрагмент карты сярэдзіны XIX ст.

# Мушкат

рарэзала новая аб'язная дарога. Возера Забельскае страціла радыкальна не толькі тэрытарыяльна, не толькі ў глыбіні (існы сёння востраў на карце не адзначаны), але і ў чысціні. На карце яно падпісанае як Белае. Значыць – чыстае, празрыстае. А вось вёска Забелле, лагічна названая – за Белым возерам. Вёска названая ад возера, а не на адварот – возера ад вёскі! Бо, найперш, было возера, а потым, на яго беразе, узнікла вёска.

### Азёры нам не патрэбныя?

Чаму азёры Вялікае, Падлазнае і Мушкат так значна зменшылі паверхню свайго люстра? Адказ тут вельмі просты. Людзі хацелі сяліцца на берагах азёраў. Сяліліся. Жылі. Дзесяцігоддзі – ніякіх катаклізмаў. Раптам, вялікая паводка! Затапляе ледзьве не пад самыя стрэхі.

Паводле аповядаў старажылаў, палякі спусцілі возера Вялікае на адзін метр. Натуральна, злучаныя між сабой пратокамі азёры Вялікае, Падлазнае і Мушкат – значна зменшыліся па плошчы. Прайшлі з таго часу дзесяцігоддзі. Здаецца, сітуацыя з паводкамі – пад кантролем. Аднак, ізноў – паводкі і не толькі ўвесну, але і ўлетку! Прыкладам, раён вуліцы Вольнай у раёне маста праз раку Беразвіцу.

Памятаецца, гады чатыры таму, патэлефанавала аўтару спадарыня з вуліцы Вольнай, дом якой падтапіла паводкай улетку. Прыехаў.

*– Вы звярталіся па дапамогу да ўладаў? – пытаю ў яе.*

*– Звярталася.*

*– Што адказалі ўлады.*

*– Мы спусцілі возера на паўметра! Няўжо Вас ізноў топіць?*

*– Дык топіць жа!*

Уяўляеце: польскія ўлады спусцілі возера Вялікае на 1 метр, нашыя, цяперашнія, яшчэ на 0,5 м. Усяго на 1,5 метра.

З гэтай прычыны арандатар возера спадар Кароль адмовіўся ад арэнды.

*– Якая арэнда і зарыбленне! Яны ж азёры спускаюць! Ідзіце, паглядзіце,– кажа ён аднойчы аўтару ў роспачы,– раней лодкі стаялі на вадзе, цяпер ужо на беразе. Тое месца, што ўчора было возерам – сёння асакой зарастае!*

Ну, раз у вас няма зямлі, каб даць людзям пляц пад будаўніцтва, давайце спусцім усе нашыя азёры: Кагальнае, Беразвецкае, Падлазнае, Мушкат! Навошта нам тая прырода, прыгажосць, чыстае паветра, азёры, адпачынак, рыбалка, турызм, калі людзям няма дзе жыць. Ёсць жа Браслаўскія азёры! Аўтобусы ходзяць – туды паедзем!

Відаць, ужо і возера Мушкат незваротна згубленае. Зноў наступаюць на тыя самыя граблі. І так вада ў возеры не першай свежасці і купацца тут небяспечна для здароўя, абы чаго не падчапіць! Дык яны ўжо пяціпавярховікі будуюць на ўскрайку нізіны, што затапляецца вясновай паводкай. Усю мазуту з асфальту ад качагаркі і мікраёна змые дождж у возера. Ёсць жа месца шмат! Будуйце дамы ў бок Абруб-Беразвецкага. Вялізнае поле. Сотня пяціпавярховак улезе! Не, трэба бліжэй да возера. Потым, камусьці, не хопіць месца пад гаражы, і яны спусцяць палову Мушката. А потым гэтыя гаражы будзе тапіць паводка, і яны спусцяць усё возера.

Класнае было возера Мушкат! Там, яшчэ ў канцы 1960-ых гг, удавалася, камусьці, вугра злавіць…

### Тапографы Івана Жахлівага цікавіліся Глыбоцкім возерам

Так атрымалася, што заканчваючы гэты матэрыял, да аўтара завітаў малады і таленавіты краязнаўца Кастусь Шыталь з Крулеўшчыны, аўтар шматлікіх публікацыяў у нашай газеце. Цяпер ён – студэнт-гісторык БДУ.

– Уладзімір Іванавіч, а вы ведаеце, што ў рускіх "Пісцовых кнігах" часоў Івана Жахлівага (1560-ыя гг) ёсць згадка аб возеры Вялікім у Глыбокім. У часе акупацыі нашага краю маскалямі, нібыта, царскаму тапографу Кікіну *"пашанцавала дабрацца з Полацка віленскім трактам на Бабынічы да Глыбоцкага возера… Частка Глыбоцкага возера мела заўсёды належыць да Полацка, а частка да Вільні. З таго возера выплывала рэчка Глыбокая, што выходзіла да возера Вялікага, якое цягнецца ў 7 вёрст на поўнач…"* Маскоўскія акупацыйныя ўлады праводзілі тапаграфічныя работы для вызначэння колішніх межаў Полацкага княства *"часоў ягонай дзяржаўнай незалежнасці".*

– Вельмі верагодна, што на часы Івана Жахлівага Глыбоцкае возера было ў сем вёрстаў даўжыні. Возера Бяглец, Кагальнае, Вялікае, Падлазнае і Мушкат – дно колішняга адзінага возера. Можа і не 7 вёрстаў, аднак, на 6 кіламетраў адлегласці пацягне,– падсумаваў пачутую навіну аўтар. На старых картах гэтае возера, наогул, адзначанае больш за Нарач.

Зрэшты, гэта зусім іншая і асобная тэма.

# Жыхарка вёскі Янукі: «Якія тут перспектывы – тры чалавекі»

**У вёсцы Янукі Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці, дзе нарадзіўся дзед новага прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча, пабывалі журналісты.**



Недалёка ад вёскі знаходзяцца маленькія старыя могілкі, дзе пахаваныя прадзяды Віктара Фёдаравіча — Януковічы. На захаваных помніках надпісы на рускай і польскай мовах, піша БелаПАН.

Напачатку мінулага стагоддзя Янукі, па словах жыхаркі вёскі, былой паштаркі Марыі Януковіч, былі параўнальна вялікай вёскай — 36 хат на 135 жыхароў. Аднак паступова янукоўцы сталі пакідаць родныя месцы. Так паступіў і дзед Віктара Януковіча — у 1914 годзе адправіўся на заробкі на Данбас, дзе жаніўся і застаўся жыць.

Вёска ў 1921 годзе ўвайшла ў склад Польшчы, з 1939 года — у БССР. Тады ж была прызнана неперспектыўнай, і новыя хаты тут больш не будаваліся. Людзей станавілася ўсё менш.

У 2003 годзе, калі Януковіч прыязджаў у Янукі, яго сустракалі шасцёра жыхароў вёсачкі. Цяпер у ёй увесь час пражываюць усяго тры чалавекі: старэнькая Аквіліна Януковіч, яе брат, і суразмоўніца БелаПАН Марыя Януковіч, якая нядаўна выйшла на пенсію

У пяці кіламетрах ад Янукоў у вёсцы Ваўкалата захаваўся касцёл, куды прыязджае служыць малады ксёндз з Докшыц.

Прадукты жыхарам два разы ў тыдзень прывозяць на машыне, і Марыя Антонаўна кажа, што ў апошнія гады тут жывецца лепш, чым у тыя ж 1960-70-я, бо да 1969 года нават электрычнасці тут не было. Адзіная дарога таксама стала лепшай — яе сталі чысціць, пасыпаць пяском.

Месцы вакол Янукоў, па словах пенсіянеркі, галоўным чынам багністыя, расце шмат журавін. Пенсія ў былой паштаркі невялікая — 350 тысяч рублёў (120 даляраў ЗША). Трымае карову, здае малако дзяржаве.

На пытанне карэспандэнта, якія ў вёскі ёсць перспектывы, Марыя Антонаўна паціснула плячамі: «Ды якія перспектывы — тры чалавекі».

# За 15 гадоў працы ваеннаслужачыя 52-га асобнага спецыялізаванага пошукавага батальёна знайшлі астанкі амаль 30 тыс. загінулых у гады войнаў

**1 сакавіка споўнілася 15 гадоў з моманту стварэння ўнікальнага падраздзялення Ўзброеных сіл Беларусі — 52-га асобнага спецыялізаванага пошукавага батальёна.**

Як расказаў БелаПАН начальнік упраўлення Міністэрства абароны па ўвекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў Віктар Шумскі, за гэты час ваеннаслужачымі батальёна знойдзены астанкі 29 тыс. 517 загінулых у Айчыннай вайне 1812 года, Першай і Другой сусветных войнах. Пазначаны межы пахаванняў, дзе ў адпаведнасці з архіўнымі данымі знаходзіцца 317 тыс. 951 загінулых. Па выніках палявых пошукавых работ устаноўлены імёны 1 тыс. 745 загінулых.

На працягу 15 гадоў спецыялізаваным батальёнам было адпрацавана 1 тыс. 670 пошукавых аб'ектаў, у тым ліку два на тэрыторыі Падляскага ваяводства Польшчы.

Падчас пошукавых работ выяўлена і абясшкоджана 3 тыс. 232 выбухованебяспечныя прадметы, выяўлены 133 адзінкі стралковай зброі, 219 медальёнаў загінулых, 3 тыс. 646 жэтонаў ваеннаслужачых замежных армій, 34 узнагароды. У рэгіянальныя і дзяржаўныя музейныя фонды па рашэнні мясцовых улад перададзена амаль 4,5 тыс. прадметаў і рэліквій.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН*

# Зацверджана праграма святкавання 100-годдзя Барыса Кіта

**Зацверджана праграма святкавання 100-годдзя сусветна вядомага вучонага Барыса Кіта, паведаміў БелаПАН старшыня аргкамітэта па святкаванні юбілею, пісьменнік і грамадскі дзеяч Васіль Якавенка.**



Паводле яго слоў, 6 красавіка ў 17.00 у сталічным Палацы мастацтва адбудзецца святочная вечарына ў гонар 100-годдзя Кіта. На яе будуць запрошаны прадстаўнікі айчыннай навукі і культуры, беларускай дыяспары і ўладаў краіны, паслы шэрагу дыпмісій, у тым ліку Германіі, ЗША, Украіны і Швецыі.

Як адзначыў Якавенка, ён будзе звяртацца да кіраўніцтва Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці з прапановай адкрыць у Карэлічах мемарыяльны знак у двары школы, дзе вучыўся юбіляр. Тым больш, што старшыня Мінскага культурнаасветніцкага клуба «Спадчына» Анатоль Белы прапанаваў для гэтага знака бронзавы барэльеф Кіта, сказаў Якавенка.

У планах аргкамітэта – правядзенне святочнай вечарыны з выставай у музеі «Зямля і людзі» (Карэлічы) і лекцый у школах Навагрудка (Гродзенская вобласць), выданне каталога архіва Кіта, які захоўваецца ў фондах Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея, адкрыццё кніжнадакументальнай выставы ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і падрыхтоўка відэафільма пра вучонага. Запланаваны таксама чэмпіянат па інтэлектуальных гульнях сярод школьнікаў Навагрудка, выданне паштовага канверта ў гонар юбіляра, яго віншаванне прадстаўнікамі дзяржаўных структур Беларусі ў Франкфурце-на-Майне, дзе жыве Кіт.

Барыс Кіт нарадзіўся 6 красавіка 1910 года ў Санкт-Пецярбургу ў сям`і беларуса. Ён доктар філасофіі ў галіне матэматыкі і гісторыі навукі, акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі ў Парыжы. У 1928 годзе скончыў Навагрудскую беларускую гімназію, у 1933 годзе – Віленскі ўніверсітэт. Працаваў настаўнікам, дырэктарам беларускіх гімназій у Вільні і Навагрудку. За рэвалюцыйную дзейнасць двойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі, а за беларускія справы – нямецкімі акупантамі. У 1943 годзе арганізаваў настаўніцкую семінарыю ў Паставах і адміністрацыйна-гандлёвую вышэйшую школу ў Маладзечне. З 1944 года — у эміграцыі. Заснаваў беларускую калонію ў Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі, ЗША). Удзельнік распрацоўкі касмічных праектаў ЗША, выкладаў у Мэрылендскім універсітэце і ўніверсітэтах Германіі, дзе жыве з 1972 года. Фундатар шэрагу эміграцыйных беларускіх выданняў і беларускага радыё ў Аўстраліі.

*Марат Гаравы, БелаПАН.*

Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь па валейболе (1-я ліга, 8-ы тур)

# ГОНКА ЗА ЛІДЭРАМІ

**"Атлант-Д" (Паставы) –- "МАПІД" (Мінск) - 3:0, 0:3**
1 дзень. 3:0 (25:22; 25:19; 25:18).
2 дзень. 0:3 (23:25; 21:25; 23:25).
13-14 лютага. Паставы. Фізкультурна-аздараўленчы комплекс.
**Суддзі:** С. Сіндзюкоў (Віцебск), В. Грыгаровіч (Гомель). Галоўны суддзя – В. Шалабанаў (Гомель).
**"Атлант-Д":** Клімюк, Рабека, Багачоў, А. Шылей (к), Шышко, Юзвовіч, Вярбіцкі, Скараход, Жалубоўскі, Кароль, Зарэцкі, Варанец.
**"МАПІД":** Мурашка (к), Казлоўскі, Вадаходаў, Тоўсцік, Дзядкоў, Ляшчынскас, Місуна, Плюта, Жарыкаў, Варыбрус, Кудроў, Вішнеўскі.

**Уладзімір ШЫК.**

На падрыхтоўку да гэтых адказных паядынкаў з бліжэйшым канкурэнтам са сталіцы ў пастаўчан былі два тыдні. У іх склад вярнуўся пасля службы ў арміі самы высакарослы (203 см) нападаючы Даніл Шышко. На яго вопыт разлічвае ў далейшым трэнерскі штаб каманды. Але за такі кароткі тэрмін вядома іграку было цяжка набыць аптымальную гульнявую форму. Ён быў у рэзерве і правёў на пляцоўцы зусім нямнога часу. Госці ў сваю чаргу не хавалі, што прыехалі ў заснежаныя Паставы браць рэванш за два паражэнні на старце нацыянальнага першынства.

Таму зноў у зале спорткомплекса на гульнях з мінчанамі не было свабодных месцаў. На жаль, толькі сярод гледачоў знаходзіўся дыяганальны нападаючы "Атланта-Д" Дзяніс Захарэвіч. У яго цяпер знаходзіцца нага ў гіпсе пасля пераломy. У паядынках з адным з галоўных канкурэнтаў гледачы ўбачылі цікавую барацьбу з непрадказальным сюжэтам. Калі ўсё будзе добра, то ў канцы сезона яшчэ зможа дапамагчы сваім партнёрам гэты хуткі ігрок. Сапернікі добра ведаюць адзін другога, у 10 папярэдніх сустрэчах паміж імі нічыя, было зафіксавана па 5 перамог і паражэнняў.

Аднак, у складзе гасцей гулялі два валейбалісты з вопытам выступленняў у вышэйшай лізе. Шмат клопатаў пастаўчанам даставіў яшчэ і перспектыўны Аляксандр Дзядкоў (рост 195 см), які вельмі моцна атакаваў у высокім скачку з абодвух флангаў і з другой лініі. Гаспадары выйшлі на пляцоўку поўнасцю адмабілізаванымі , спачатку барацьба ішла ачко ў ачко, а потым сталі крыху саступаць мінчанам. Намаганнямі ў атацы маладых двухметровых ігракоў "Атланта-Д" Антона Вярбіцкага і Аляксея Рабекі ўдалося лік зраўняць – 15:15. Потым удала згуляў пры завяршэнні камбінацый капітан пастаўчан Алег Шылей, а рашаючае пераможнае ачко камандзе прынёс у стартавай партыі вопытны Ігар Скараход, які ў адзінаборстве перайграў на сетцы майстра спорту Андрэя Жарыкава.

У далейшым гульня працягвалася быццам на качэлях. То адна, то другая каманда па чарзе вырываліся наперад, а потым дазвалялі саперніку ліквідаваць адрыў у ліку. Усё ж фактар сваёй пляцоўкі і гарачая падтрымка балельшчыкаў дапамаглі пастаўчанам у першы гульнявы дзень. Асаблiва, калі на падачы таго ж І. Скарахода гаспадарам удалося набраць 6 ачкоў запар, госці крыху зніклі. Толькі эпізадычна стала ў іх атрымлівацца хуткая давадка мяча з нечаканымі перадачамі пад завяршальны ўдар. Як і належыла чакаць, гульнявая ініцыятыва перайшла да гаспадароў і двойчы ў іх складзе ў канцоўцы пераможнага матча вызначыўся нават выйшаўшы на замену 18-гадовы Міхаіл Жалубоўскі (рост 188 см).

Пасля фінальнага свістка, мінчане закрыліся ў раздзявалцы, правялі сход каманды і дэталёвы разбор гульні саперніка. Гэта прынесла ім свой плён. Каманда "МАПІД" выглядала на пляцоўцы ў паўторнай сустрэчы рашучай і агрэсіўнай. Невыпадкова пастаўчане сталі прайграваць спачатку з лікам 1:9. Яны безнадзейна саступалі і ў далейшым, у канцоўцы партыі, лік стаў 16:22. Цаной вялікіх намаганняў гаспадары нават скарацілі разрыў да мінімума – 23:24. Аднак не змаглі паставіць пераможную кропку і прайгралі партыю.

У наступнай дамініравалі спачатку ўжо пастаўчане. На жаль, у рашаючы момант у канцоўцы ў іх не пайшла гульня ў атацы. Сталі памыляцца практычна ўсе ігракі. Трэнер пастаўчан спрабаваў серыяй замен ажывіць гульню, аднак запасныя валейбалісты пакуль не могуць дыктаваць сваю волю саперніку. У выніку пераможная партыя аказалася прайгранай. На тварах мінчан пры ліку на электронным табло 0:2 з'явіліся ўсмешкі. Госці загулялі яшчэ хутчэй, займелі псіхалагічную перавагу. У іх неаднаразова праходзілі вельмі прыгожыя падманныя камбінацыі з вывадам нападаючых на завяршальны ўдар без супраціўлення.

Трэба аддаць належнае і пастаўчанам. Перад сваімі гледачамі яны стараліся з усіх сіл, што засталіся. Ім удалося дагнаць саперніка ў трэцяй партыі і нават выйсці наперад у ліку 22:21. Але канцоўка трэцяй партыі зноў засталася за мінчанамі, якія здолелі ўзяць рэванш за папярэдняе паражэнне. Тым не менш, у гэтым сезоне "Атлант-Д" перамог свайго саперніка тройчы ў чатырох паядынках. У чарговым туры чэмпіяната Беларусі пастаўчанам не прыйдзецца ехаць у Магілёў, бо гэта каманда спыніла свой удзел у ім і была выключана з ліку ўдзельнікаў. Пастаўчане сэканомілі грошы на паездку і паклалі яшчэ 6 ачкоў у сваю скарбонку за тэхнічныя перамогі. Цяпер "Атлант-Д" (Паставы) 13-14 сакавіка зноў згуляе дома з выхаванцамі абласной спецыялізаванай спортшколы з Гродна і працягвае барацьбу за ўзнагароды першынства краіны.

**8 тур**

Алімп – АСДЗЮШАР – перанесены з-за ўдзелу гродзенцаў у рэспубліканскім турніры; Легіён – Металург - 3:0, 3:0; БДУ - МГВАР – 3:0, 3:0 (тэхнічныя перамогі). Камандзе "МГВАР" (Магілёў) ва ўсіх застаўшыхся матчах першынства залічаны тэхнічныя паражэнні з лікам партый 0:3.

**Турнірная табліца**

| | Г | В | Вт | П | Пт | А | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| БДУ (Мінская вобл.) | 16 | 13 | 2 | 1 | 0 | 43 | 39 - 10 |
| Легіён (Гродзенская вобл.) | 18 | 13 | 1 | 3 | 1 | 42 | 45 - 17 |
| Алімп (Кобрын) | 16 | 12 | 2 | 1 | 1 | 41 | 45 - 11 |
| Атлант-Д (Паставы) | 18 | 10 | 1 | 5 | 2 | 34 | 40 - 24 |
| МАПІД (Мінск) | 18 | 10 | 0 | 6 | 2 | 32 | 37 - 25 |
| Металург (Жлобін) | 18 | 6 | 0 | 12 | 0 | 18 | 20 - 31 |
| АСДЗЮШАР (Гродна) | 16 | 4 | 0 | 12 | 0 | 12 | 13 - 36 |
| МГВАР (Магілёў) | 28 | 0 | 0 | 28 | 0 | 0 | 1 - 84 |

# Заваяваць алімпійскае «золата» Аляксею Грышыну дапамагло самавалоданне, лічыць начальнік нацыянальнай каманды па фрыстайле




**Заваяваць алімпійскае «золата» Аляксею Грышыну дапамаглі самавалоданне і стабільнасць. Такую думку ў інтэрв'ю БелаПАН выказаў начальнік нацыянальнай каманды Беларусі па фрыстайле Анатоль Пастухоў.**

«Гэта гістарычная, надзвычай яркая і ў пэўнай ступені нечаканая падзея. Краіна атрымала першага алімпіёніка ў зімовых відах спорту», — адзначыў Пастухоў.

Паводле яго слоў, канкурэнтаздольныя былі ўсе чатыры беларускія фрыстайлісты: Аляксей Грышын, Дзмітрый Дашчынскі, Цімафей Слівец і Антон Кушнір. «Пытанне ў тым, хто можа ў канкрэтнай сітуацыі прадэманстраваць усё, што ўмее, а каму нейкія прычыны могуць не дазволіць гэта зрабіць. Аляксей заўсёды валодаў якасцямі пераможцы», — сказаў начальнік каманды.

«Напярэдадні мы гаварылі: той спартсмен, які ў фінале зробіць дзве добрыя спробы, можа разлічваць на поспех. Так і адбылося. Акрамя самавалодання Аляксея спрацавала і маланкавае пралічванне ўсіх нюансаў сітуацыі. Ён вельмі сур'ёзна рыхтаваўся, а вопыту яму не займаць», — лічыць Пастухоў.

Ён адзначыў, што непападанне ў фінал медальнай надзеі Антона Кушніра «азадачыла» каманду і ў «пэўнай ступені наклала дадатковую адказнасць на іншых».

Каментуючы 11-е месца Дашчынскага, Пастухоў адзначыў, што для пападання ў прызёры яму неабходна было выканаць першую спробу на тым жа ўзроўні, што і другую. «Паўплывала невялікая памылка. На трэніроўках і размінках і Дашчынскі, і Кушнір выконвалі ўсё з заплюшчанымі вачыма. Цяжка ўлезці ў душу спартсмена і зразумець, што паўплывала на яго, але адна памарка вядзе да такога выніку. Тое ж самае Слівец: другую спробу ён зрабіў няякасна і заняў дзявятае месца. Патрэбны ўстойлівасць і стабільнасць», — сказаў начальнік каманды.

Пастухоў адзначыў выступленне Асоль Слівец, якая напярэдадні ў жаночым фінале заняла чацвёртае месца. «Мы гаворым ёй вялікае дзякуй пасля таго, як яна нарадзіла і пачала настойліва трэніравацца. Лічу, гэта нармальнае месца. Яна праявіла максімум старання», — сказаў Анатоль Пастухоў.

Яшчэ адна беларуская фрыстайлістка Ала Цупер, выйграўшы кваліфікацыю, была ў фінале толькі восьмай. «Мы ведаем яе недахопы. Яна губляецца. Калі б яна выступіла так, як у кваліфікацыі, пытанняў бы не было. Гэта сфера псіхалогіі. Акрамя таго, яна не да канца аднавілася пасля траўмы і магла ўвогуле не выходзіць на старт. Таму прад'яўляць прэтэнзіі не трэба. Яна чалавек вельмі адданы і працалюбівы», — падкрэсліў Пастухоў.

На яго думку, Цімафей і Асоль Слівец могуць паказаць вельмі высокія вынікі на наступных Алімпійскіх гульнях у Сочы.

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*

# Беларусь апусцілася на дзевятае месца ў рэйтынгу Міжнароднай федэрацыі хакея

**Няўдалае выступленне на Алімпійскіх гульнях у Ванкуверы пагоршыла становішча беларускай зборнай у рэйтынгу Міжнароднай федэрацыі хакея.**

Паводле вынікаў турніру яна апусцілася з восьмага на дзевятае месца. Раней гэтую пазіцыю займалі славакі, якія ў Ванкуверы занялі чацвёртае месца і ўзняліся на сёмы радок рэйтынгу.

На першае месца выйшлі алімпійскія чэмпіёны канадцы, якія адцяснілі на другое месца пераможаных імі ў чвэрцьфінале расіян. Трэцяя пазіцыя ў бронзавых прызёраў Алімпіяды фінаў, якія памяняліся месцамі са шведамі. На пятым месцы ЗША, на шостым Чэхія, на восьмым Швейцарыя, на дзесятым Латвія. Беларусь на алімпійскім турніры заняла дзевятае месца.

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*

## ІМЯНІНЫ

**4 сакавіка**
**Пр.:** Архіпа, Багдана, Макара, Максіма, Фёдара, Філімона, Фядота, Яўгена.
**К.:** Люцыі, Казіміра, Яўгена.

**5 сакавіка**
**Пр.:** Агафона, Васіля, Івана, Ігната, Карнілы, Льва, Піліпа, Сяргея, Ціхана.
**К.:** Адрыяна, Вацлава, Тэафіла, Фрэдэрыка.

**6 сакавіка**
**Пр.:** Аляксандра, Астапа, Георгія, Данілы, Цімафея.
**К.:** Клаўдзіі, Ружы, Эльвіры, Віктара.

**7 сакавіка**
**Пр.:** Ірыны, Апанаса, Віктара, Івана, Іосіфа, Леаніда, Міхаіла, Пятра, Уладзіміра, Фёдара.
**К.:** Пярпетуі, Феліцыты, Паўла, Тамаша.

**8 сакавіка**
**Пр.:** Аляксея, Івана, Мікалая, Аляксандра, Сяргея, Міхаіла.
**К.:** Беаты, Адрыяна, Вінцэнта, Яна.

**9 сакавіка**
**Пр.:** Івана.
**К.:** Катарыны, Францішкі, Дамініка.

**10 сакавіка**
**Пр.:** Тараса.
**К.:** Яўгеніі, Аляксандра, Макара, Цыпрыяна.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Плата за труд | ↓ | Шелковая ткань | ↓ | Цикл ... | Бегун на длинные дистанции | ↓ | Слово из лексикона Эллочки Людоедки | Адамово яблоко |
| → | | | | | | | ↓ | ↓ |
| Балет Арама Хачатуряна | | Арлазоров | | Заключительная часть спектакля | Ядовитая жаба | → | | |
| → | | ↓ | | ↓ | Галоген | → | | |
| Связка стеблей хлебных злаков | → | | | | Пустыня в Центральной Азии | | Знак зодиака | |
| Фигурная линейка | | Кашевар с корабля | Запасной ... | → | ↓ | | ↓ | |
| → | | ↓ | | | | Изобретатель "Наутилуса" | | Дьявол |
| Нервный ... | Родина и царство Одиссея | | Обман со стороны продавца | → | | ↓ | | ↓ |
| → | ↓ | | Хищник, питающийся падалью | → | | | | |
| Город в Казахстане | | Дом в Альпах | ↓ | Гектар | Земельная мера в Англии | | Глава Венецианской республики | |
| → | | | | ↓ | ↓ | | ↓ | |
| Стрижка | | ... для ногтей | | | | Местоимение | → | |
| → | | | | Морда | → | | | |

**Ответы на сканворд №8**
**По горизонтали:** Известняк. Офорт. Напалм. Обида. Барс. Роман. Сурок. Халиф. Жуть. Люди. Маш. Овраг. Дока. Дюрер. Трава. Адам. Меч. Хи. **По вертикали:** Иуда. Вода. Скоморох. Неодим. Катран. Небрежность. Пирс. Бокал. Давид. Сурьма. Людоед. ФИФА. Агдам. "Реал". Драч. Крах. Ми.

## ГАРАСКОП
### на новы тыдзень

**АВЕН.** Прыход вясны адразу зменіць ваша стаўленне да навакольнага свету. Настрой стане люстраным адлюстраваннем рэчаіснасці. Вы зможаце паспяхова прасоўваць справы, сілы нібы патрояцца. У цэлым Авены на гэтым тыдні пазітыўныя, і гэта хваля пройдзецца па найбліжэйшых асяроддзі, дарачы ім упэўненасць у сабе. Спрацуе закон даміно - чым бліжэй жаночае свята, тым больш у Авенаў клопатаў. Лепш зрабіць важныя справы ў першай палове тыдня, а на другую пакінуць штонебудзь прыемнае: паход у касметычны салон, напрыклад. З грашыма могуць паўстаць накладкі. Хтосьці пазычыць грошай, і можа не хапіць грошай на важную пакупку. У канцы тыдня час праляціць весела. У цэлым складзецца адчуванне, што жыццё атрымалася.



**ЦЯЛЕЦ.** Тыдзень добры для рэалізацыі ўласнага патэнцыялу. Прыход вясны абудзіць у Цялятах смагу да творчай дзейнасці. У такі час, як правіла, вельмі важным бывае разуменне і падтрымка блізкіх. Аднак адносіны ў сям'і могуць накаліцца з-за нежадання саступаць па дробязях. Таму, калі не жадаеце пагаршэння адносін, імкніцеся прыслухоўвацца да таго, што ад вас жадае партнёр. Калі самому знайсці рашэнне не атрымоўваецца, звярніцеся да чалавека, парадам якога вы давяраеце.



**БЛІЗНЯТЫ.** Тыдзень чакаецца досыць актыўны, аднак не заўсёды знойдзецца час на развіццё новых праектаў. Удалым тыдзень акажацца для рознабаковых зносін, любоўных знаёмстваў. Магчыма, вам прыйдзецца наведаць процьму вечарынак і мерапрыемстваў. Будзьце асцярожныя ў зносінах, не забывайце пра межы паміж асабістым і прафесійным. Каханне можа апынуцца вельмі надакучлівай дамай, а здабытыя пачуцці - моцнымі, але працягласці ад адносін не чакайце.



**РАК.** Калі вы чымсьці захапляецеся, то цалкам аддаецеся любімай справе, гэта так? Першыя дні сакавіка падораць надзею ў заваёве асобы процілеглага полу. Аднак пылкасць, напор з вашага боку можа толькі ўскладніць сітуацыю, вашы паводзіны растлумачаць надакучлівасцю. Лепш змяніць тактыку: у заваяванні сэрцаў выкарыстоўваць упэўнены спакой, захоўваць годнасць, тады і аб'ект вашай цікавасці не зможа выстаяць перад вашай харызмай.



**ЛЕЎ.** Ацаніць сябе па годнасці - няпростая задача, але Львы бліскуча справяцца з ёй. Узброіўшыся інстынктамі паляўнічага, яны гарманічна ўпішуцца ў кругазварот жыццёвых акалічнасцяў і атрымаюць з сітуацыі максімальную выгаду. Дзелавы марафон на доўгую дыстанцыю з кароткімі перапынкамі падоўжыцца ўвесь тыдзень і нават даўжэй. Бярыцеся за добра аплочваемыя заданні, застанецеся ў выйгрышы. Выхадныя - выдатны час, каб правесці яго актыўна, на свежым паветры.



**ПАННА.** Пачатак сакавіка падорыць нечаканыя магчымасці. Ваша задача - своечасова зарыентавацца і выкарыстоўваць сітуацыю сабе ў выгоду. Для агульнай справы лепш пралічыць сітуацыю на некалькі хадоў наперад, дакладная стратэгічная лінія прывядзе да тактычных перамог. Навіны здалёку могуць змяніць ход вашага жыцця. Магчыма адбудзецца эмацыянальнае ўзрушэнне. У сярэдзіне тыдня надайце ўвагу сям'і, можна вырашыць пытанне рамонту ці пераезду. У справах найвялікую актыўнасць выявіце ў пятніцу, у гэты дзень вы зможаце атрымаць прыбытак.



**ШАЛІ.** Чым даўжэй ваша галава будзе заставацца на сваім месцы, тым лепш, таму што любое галавакружэнне цяпер - ці ад кахання, ад поспехаў - можа негатыўна адбіцца на якасці жыцця. Таксама лепш пачакаць і з вясновымі ўборамі - зоркі папярэджваюць: беражыцеся хвароб. Банальная прастуда можа зацягнуцца, а ў выніку вы ўвесь сакавік прасядзіце дома. Калі штосьці складаецца не ў вашу карысць, выявіце вытрымку. Зусім хутка лінія вашага жыцця выправіцца.



**СКАРПІЁН.** На новым тыдні будзе значна менш напружанасці ў міжасобасных адносінах. Тыдзень добры для ўсяго новага: новых ведаў, новых пакупак, новых уражанняў. Паспрабуйце правесці тыдзень плённа, бо менавіта цяпер вы зможаце дамагчыся таго, што запланавалі. У каханні складуцца роўныя, цёплыя адносіны. Хоць не выключана, што каханы чалавек паднясе неспадзеўку. Але ўсё гэта будзе прыемна і не сапсуе агульнага ўражання ад тыдня. Выхадныя пажадана правесці з тым, без каго жыццё здаецца прэсным.



**СТРАЛЕЦ.** Тыдзень прынясе поспех тым Стральцам, хто знаходзіцца ў шлюбе. З прыходам вясны, нарэшце, вось з'явіцца шанец дасягнуць паразумення і заняць узважаную пазіцыю. У пачатку тыдня закладвайце падмурак бізнесу, шукайце партнёраў і фундатараў. У сярэдзіне тыдня будзьце асцярожныя з дакументамі і не пакідайце ў грамадскіх месцах уласныя рэчы. У пятніцу будзеце прыемна здзіўлены. У выхадныя не губляйце пачуцця гумару і адчуванне рэальнасці.



**КАЗЯРОГ.** З прыходам вясны ваша жыццёвая сіла стане прыбываць па нарастаючай. Тыдзень значна лепш за папярэдні. Усё, што ў мінулым месяцы абцяжарвала, зараз па вялікім рахунку не будзе мець значэння: запал уляжацца, сітуацыя ўраўнаважыцца, і вы з чыстым сумленнем прымецеся збіраць камяні. Жадаеце пачаць новую справу? На гэтым тыдні няма нічога немагчымага. Адважна рызыкуйце, і ваша рызыка будзе апраўданай. У каханні таксама намячаюцца перспектывы, сачыце за знакамі лёсу, не прапусціце момант, калі трэба прыступаць да рашучых дзеянняў, і каханы чалавек абавязкова будзе вашым.



**ВАДАЛЕЙ.** Тыдзень дае магчымасць правесці генеральную ўборку ў сваім жыцці. Хутчэй за ўсё вы пазбавіцеся ад цэлай кучы непатрэбных думак і праблем, адкрыўшы ў сабе новыя якасці. Прыслухайцеся да сябе, каб зразумець, чаго менавіта вы жадаеце больш за ўсё, і дзе насамрэч ваша месца. У выхадныя вам пойдуць на карысць зносіны з сям'ёй, прычым у самым шырокім крузе. Калі вы дагэтуль не прадставілі сваякам свайго выбранніка - цяпер самы час гэта зрабіць.



**РЫБЫ.** Першая палова тыдня добрая для ўсяго, што злучана з прыемнымі хатнімі справамі. Рамонт, перастаноўка мэблі, купля тэхнікі - усё гэта рэкамендуецца зоркамі. Акрамя таго, разважанне зорак абавязкова адаб'ецца на адносінах з каханым чалавекам. Гэтыя адносіны стануць больш сумленнымі, гуллівымі і пачуццёвымі. З іншага боку, менавіта цяпер вы найболей маеце патрэбу ў каханым і ніяк не прымаеце ігнаравання ўласнай персоны. У цэлым, сярэдзіна тыдня досыць удалая, хоць у вас час ад часу могуць змяняцца планы. У выхадныя будзе назірацца відавочная залежнасць ад акалічнасцяў.

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 1099, выдадзена Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

“Вольнае Глыбокае”
Тыднёвік паўночна-заходняй Беларусі
Заснавальнік: Уладзімір Іванавіч Скрабатун

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб`ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 23 лютага 2010 года ў 21.05
Наклад 2000 паасобнікаў

Рэдактар : Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
тэлефон / факс: (02156) 2 46 14;
E-mail: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў: 211800 г. Глыбокае п/с 3
Замова № 808

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на “Вольнае Глыбокае” абавязковыя.

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк.

Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

ISSN 2077-8023

